piunaya.by




ISSN 2077-0308




№4 (6)
14 чэрвеня 2010

Шаноўныя падарожныя! Вы пакідаеце тэрыторыю Мінскай вобласці. Не забудзьцеся затарыцца півам!



Вось такія кабеты сустракаюць цяпер падарожнікаў на выездзе з Мінска ў вобласць, недвухсэнсоўна намякаючы: "Па піўку?"

## Піва, гамбургер і порна

**Двое брытанцаў вынайшлі геніяльны спосаб, як стымуляваць продажы піва ды закусак.**

Рэцэпт тут аказаўся простым: кожны, хто набываў піва і гамбургераў на £5 атрымліваў DVD з парнухай. Усё было добра, пакуль сярод пакупнікоў не аказаўся нейкі вычварэнец з нетрадыцыйнымі запытамі ў сэксе, які і паскардзіўся ў паліцыю. Прадаўцы піва арыштаваныя, вядзецца следства.




стар. 12-13

# ПІВАВАРЫ XX ст.

Гісторыя старажытнага п'янства і разгільдзяйства

## Рашэнне Мінскага аблвыканкама аб скасаванні забароны продажу піва ў кіёсках і павільёнах можа стаць першай ластаўкай піўной лібералізацыі.

Стар. 3

## 8½ рэчаў, якія трэба зрабіць перад тым, як сканаць

стар. 4

# КУПІЦЬ УЖО МОЖНА, УЖЫЦЬ ЯШЧЭ НЕ!

## Век вуду не забуду!

**Бразільскія шаманы выпусцілі вуду-лялькі ўсіх удзельнікаў Чэмпіянату Свету**



**Правядзенне ЧС не абыходзіцца без вядзьмарства і цемрашальства.**

Бразільскі вэбсайт voodoocopa.com.br вырашыў дапамагчы роднай зборнай: усім ахвочым прапануецца набыць лялькі гульцоў чужых зборных і тыкаць у іх іголкі.

Працяг тэмы шаманства на ЧС – стар. 14

**ВАКОЛ ПІВА:** Не ведаеце, дзе правесці свой летні адпачынак? Стар. 5

Замест таго, каб ашывацца пад магазінам на сваім раёне, мы прапануем вам пабавіць час у самых дзіўных барах Свету.

[актуаліі]

## АДНЫМ ГЛЫТКОМ

### Імпарт



За першы квартал Беларусь павялічыла імпарт піва на 7% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага году. Кантралюючым органам давядзецца яшчэ разабрацца, хто адказны за зрыў дзяржпраграмы па імпартазамяшчэнні.

### Даўгі



Знешні доўг Беларусі на 1 красавіка бягучага года склаў 22,24 мільярды долараў, што ў разліку на аднаго жыхара складае 2350 амерыканскіх умоўных адзінак. У пераліку на піва атрымоўваецца каля 120 скрыняў альбо больш за 1000 куфляў у бары.

### Золата



Золатавалютныя рэзервы нашай краіны скараціліся за травень на 4,2%, альбо 253,4 мільёны даляраў. Немагчыма нават падлічыць, колькі можна было пабудаваць на гэтую суму лядовых палацаў альбо арганізаваць "Дажынак".

### Крэдыты



У мэтах стымулявання развіцця падсобных гаспадарак падпісаны ўказ "Аб выдзяленні крэдытаў грамадзянам, што ажыццяўляюць вядзенне асабістых падсобных гаспадарак", які прадугледжвае крэдытаванне на 7 год пад 5% гадавых. Максімальны памер крэдыта на гадоўлю дзюдзікаў абмежаваны 60 мільёнамі рублёў.

### Рост



Рост спажывецкіх цэнаў у Беларусі за перыяд са студзеня па красавік склаў 3,1%, што дазволіла заняць 7 месца сярод краін былога СССР. Пакуль мы значна адстаем ад мінулага года, калі па гэтым паказчыку мы былі на 2 месцы. За ўвесь год тады цэны павялічыліся на 10,1%.

### Стаўка



У самы бліжэйшы час будзе павялічана тарыфная стаўка 1 разрада, якая ў дадзены час складае 81000 рублёў. Па словах міністра фінансаў Андрэя Харкаўца, "эканоміка Беларусі дэманструе рост. Гэта кажа пра тое, што патэнцыял для роста зарплаты існуе."

### Акцызы




З 1 ліпеня плануецца павялічыць стаўкі акцызаў на алкагольную прадукцыю ў сярэднім на 10%. Дадзеная мера павінна рашуча ўдарыць па зялёным змеі. Пазіцыі ж піва, наадварот, павінны ўзмацніцца.




# Бір? Аўсвайс, біттэ!

**У бліжэйшай будучыні ў Германіі, каб набыць піва, давядзецца паказваць пашпарт. Раней праверка дакументаў ажыццяўлялася выбарачна, ды й тое прадаўцы глядзелі на гэта скрозь пальцы.**

Зараз пытаць дакументы будуць ува ўсіх, хто молада выглядае. А каб касіры не запрацаваліся і не забыліся праверыць дакументы, на касах усталююць адмысловыя прылады, якія пры счытванні штрыхкода з алкагольнай прадукцыі будуць падаваць сігнал, які нагадае пра патрэбу праверкі аўсвайса.

Такое ўзмацненне кантролю за продажам алкаголю выклікана ростам колькасці атручванняў сярод нямецкай моладзі, які дасягае 10% у год.

Так што наступным разам падчас шпацыру па Берліне не здзіўляйцеся, калі вас абступіць група падлеткаў і папросіць купіць ім 2 літры "Берлінэр Кіндль".

## Дзе адпачывае пралетарый



**Абнародаваныя статыстычныя вынікі сферы народнага адпачынку.**

У сферы грамадскага харчавання Мінска на 1 студзеня 2010 года працавалі 571 сталовая, 307 кафэ, 241 бар, 133 рэстараны, 108 міні-кафэ, 73 кафэтэрыі, 17 рэстаранаў хуткага абслугоўвання, 356 іншых аб'ектаў грамадскага харчавання. Больш за ўсё аб'ектаў грамадскага харчавання ў Цэнтральным раёне сталіцы, менш за ўсё – у Завадскім. Такія дадзеныя публікуе Галоўнае статыстычнае ўпраўленне сталіцы.

Аднак не трэба радавацца такому "багатаму" выбару. Негледзячы на прыведзеныя вышэй паказчыкі, Мінск моцна саступае еўрапейскім сталіцам, дзе на кожным куту па трыццаць бараў альбо кафэ.

# Піўная градка для мужчын




**Нашы жанчыны часта выгадоўваюць на сваіх падваконніках якія-небудзь расліны. А вось кампанія ThinkGeek прыдумала, як прыцягнуць да садоўніцтва і мужчын. Яна прапануе набыць набор Grow Your Own Beer Garden, назва якога перакладаецца як "Вырасці сваю ўласную піўную градку".**

У набор уваходзіць ёмістасць, грунт, куды высаджваецца насенне пшаніцы і ячменю, а таксама інструкцыі па іх гадоўлі і наступнай падрыхтоўцы піва. Праўда, які аб'ём напою можна атрымаць у сябе на кухні, невядома. Вытворца ўсё ж робіць упор не на колькасць піва, а на сам працэс яго вырабу ў хатніх умовах. З дапамогай гэтага набору, запэўнівае ён, кожны ахвотнік зможа адчуць сябе піўным каралём і пахваліцца перад сябрамі ўласнай піўной градкай. Кошт набору складае каля 55 даляраў.

Набор для вырабу піва на хаце неўзабаве можа стаць папулярным і ў Беларусі. Ёсць імавернасць, што павышэнне коштаў на пенны напой заахвоціць мужчын стаць хатнімі піваварамі. Да таго ж мы маем вялікі досвед у гэтай справе з часоў "сухога закону".

**Англійская кампанія "Tom Wood's" прыдумала, як невялікім броварам зрабіць вытворчасць піва таннейшым. Разліў піва зараз можна будзе здзяйсняць у адмыслова абсталяваных грузавіках – мініпіваварнях на колах.**

Грузавікі абсталяваныя так, што ўся перадпродажная падрыхтоўка прадукту можа ажыццяўляцца проста «на борце». Там можна мыць бутэлькі, разліваць піва, ляпіць этыкеткі і пакаваць піва.

Падобнае ноў-хаў дазволіць

ПАДОБНА, ШТО ЎЛАДЫ ПАЧЫНАЮЦЬ ПАВАРАЧВАЦЦА ТВАРАМ ДА ПІВАВАРАЎ. ЦІ НАДОЎГА?

# У кіёсках зноў з'явіцца піва

Месца пад куфаль піва

**Мінскі абласны выканаўчы камітэт адмяніў забарону на продаж піва і іншых слабаалкагольных напояў з аб'ёмнай доляй этылавага спірту не больш за 7% у шапіках на прыпынках грамадскага транспарту.**

Раней гэтая забарона была ўведзена ў Мінскай вобласці ў канцы лета мінулага года на падставе рашэння Мінаблвыканкама № 479 ад 19.05.2009 года.

Акрамя прыпынкаў грамадскага транспарту, Мінскі аблвыканкам тады забараніў круглаcутачна гандляваць півам у аб'ектах дробнароздрабнага гандлю (палатках, павільёнах без гандлёвай залы, кіёсках).

І вось – першая ластаўка піўной лібералізацыі. Здавалася б, беларускім піваварам самы час пляскаць у далоні такой ініцыятыве абласных уладаў. Аднак тыя не спяшаюцца ўпадаць у цялячае захапленне.

Падыходзь-налятай, "Аліварыю" з "Крыніцай" разбірай!..

▲ **Жыхары Міншчыны зноў атрымалі магчымасць тарыцца півам на прыпынках грамадскага транспарту. Ці стане гэта першым крокам да піўной лібералізацыі?**

"К новому решению мы относимся без эйфории. Запретить всегда проще, чем создать или восстановить, – паведаміла намеснік гендырэктара па маркетынгавай дзейнасці ТАА "Крыніца" **Святлана Папсуй**. – Мы не делаем секрета, что из-за всех запретительных мер наше предприятие потеряло до 15% от объемов реализации нашей продукции по сравнению с первым кварталом прошлого года. Нам потребовалось время, чтобы перенаправить каналы сбыта и восстановить то, что было до "ликвидации" киосков."

Вядома ж, рашэнння толькі аднаго аблвыканкама не хопіць для таго, каб паправіць справы ўва ўсёй піваварнай галіне. Тым не менш першы крок на сустрач зроблены. Ці возмуць прыклад з Міншчыны кіраўнікі іншых абласцей? І ці будуць нейкія зрухі ў гэтым кірунку на больш высокім узроўні?

"Да, мы надеемся что такие шаги будут, – маркуе С.Папсуй. – Прежде всего, должна быть моральная поддержка своего продукта со стороны государства и потребителя. Речь не идет о протекционизме, о каком-то административном давлении. Речь идет о равноправном существовании на рынке, где на сегодняшний момент доля импорта составляет 30%."

А пакуль што мінскія абласныя ўлады рыхтуюцца да наплыву турыстаў з суседніх абласцей, што прагнуць піўной вольніцы.

# СТАДЫЁН з піўных бляшанак

Глядзі, Францаўна, які цудоўны Лядовы палац атрымаўся з бутэлечак, што мы летась назбіралі!

Лепш бы ўсё ж-такі здалі...

**У мінулым годзе да фіналу Лігі Чэмпіёнаў УЕФА Heineken сабраў з бутэлек Калізей. Потым – калядную елку, а зараз вырашыў пераўзыйсці ўсе ранейшыя дасягненні і па колькасці скарыстанага матэрыялу, і па складанасці канструкцыі.**

У Бухарэсце (Румынія) з піўных бляшанак сабралі «дакладную копію» футбольнага стадыёна Санцьяга Бернабэу, хатнюю арэну Real Madrid і месца правядзення фінальнага матча 2010 года. Вядома, што для гэтай канструкцыі запатрабавалася 40 тысяч бляшанак (і гэта толькі для таго, каб намаляваць напалову запоўнены стадыён) і 3 тыдні працы. Трэба й нам пераняць гэты досвед. Застанецца толькі скасаваць забарону распіцця піва на вуліцах і сагітаваць нашых бабуль здаваць шклатару на будаўніцтва лядовых палацаў.

# Піваварні на колах

вытворцам сэканоміць на арэндзе. Як лічаць у кампаніі, мабільныя піўзаводы будуць цікавыя як дробным піваварам, гэтак і ўладальнікам грузавікоў, якія змогуць прадаць свае аўто для ўсталёўкі бровара і атрымаць дадатковы прыбытак.

А калі пад бровары задзейнічаць нашыя БелАЗы, дык можна адкрываць ажно цэлыя піўзавады на колах ды заадно павялічваць збыт айчыннага аўтапрама на радасць аматарам піва.


Наш адказ на заходнія ноў-хаў: міні-Аліварыя на колах.

[вакол піва]

# 8½ рэчаў, якія трэба зрабіць перад тым, як сканаць

**Што б было, калі б вы ведалі, колькі часу вам засталося жыць? Вы пачалі б думаць, што яшчэ ў жыцці непабачанага і нязробленага. А так яшчэ ўсяго хочацца... З гэтых старонак мы можам падказаць вам пару рэчаў, ясна, для сапраўдных аматараў піва.**

## 1 Зрабіць экскурсію да брамы св. Джэймса піваварні Guinness




Дублін, Ірландыя. Арыгінальны дом кампаніі Guinness. У кожнага аматара піва ёсць шанец вярнуцца да пачатку Guinness, і даведацца як гэта было створана ды як гэта развівалася. Экскурсія заканчваецца ў бары Gravity Bar, дзе ты можаш дармова атрымаць свежазвараную пінту Гінэсу і хоць раз паспрабаваць рэальны смак гэтага піва.

## 2 Наведацца на Oktoberfest у Германіі



Гэта мара сапраўднага беларускага піўнога аматара. Гэта як "Дыснэйлэнд" для дарослых.16-дзённы фэст у Мюнхене, які змяшчае ў сабе шмат ежы, забаўляльных мерапрыемстваў, і канешне, піва са свежых кегаў і бутэлек з піваварняў усяго Свету.

## 3 Наведаць бар Brazen Head у Дубліне, Ірландыя




Гэта адзін з найстарэйшых бараў у Ірландыі. Паб вяртае нас да 1198 года – часу, з якога ён працуе. Ён аўтэнтычны як аніякі іншы ў Свеце. І кожны рэстаратар, дызайнер і піўны аматар Беларусі мусіць наведаць гэты ірландскі паб ды ўзяць пінту-другую добрага старога стаўту.

## 4 Папіць піва на матчы плэй-офф Лігі Чэмпіёнаў



Для шараговага беларускага аматара піва і футболу, які ўсё жыццё глядзіць гульні па "Гарызонце", з каментарам дзеючага на нервы рупара беларускага спорту Уладзіміра Навіцкага ды бутэлькай "Жыгуля", трапіць на які-небудзь матч "Барселоны" і "Манчэстэру" на "Camp Nou" і папіць там мясцовага півасу – гэта як трапіць у іншую рэальнасць!

## 5 Паспрабаваць піва ў кожнай краіне Свету



Вядома, гэта будзе найбольш складана, бо ў значнай частцы Свету не тое што піваварні сваёй няма – няма вадаправоду ў раёне, ані магазіна, ані школы. Але бавячы час на Захадзе ці Ўсходзе вы маеце добры шанец параўнаць гатункаў 30, напрыклад, чэшскага піва з нашым. Піва ў кожнай краіне ўнікальнае, як, напрыклад, хлеб. І ў кожнай краіне ёсць хоць гаць гаці гатункаў са сваімі ўласнымі якаснымі характарыстыкамі, што непазбежна стварае вялікую спакусу надзьгуставацца ў хлам.

## 6 Зварыць сваё ўласнае піва



Няпростым ёсць працэс хатняга півавараіння – спробы розных камбінацый ды варыяцый пакуль не атрымаецца штосьці рэальна ўнікальнае. Прасцей за ўсё будзе скарыстацца партатыўнай мікрапіваварняй, напрыклад BeerMachine, якая зробіць для вас 10 літраў выдатнага жывога піва ўсяго за пару тыдняў. Па-першае, спажыванне вашага самаробнага піва дапаможа вам не падтрымліваць сваімі грашыма карпарацыі, якія скупілі ўжо амаль усе беларускія піўныя фабрыкі; а па-другое, дазволіць не ўдзельнічаць у стварэнні самай вялікай часткі даходу дзяржавы – ад продажу алкаголю. Але будзьце пільнымі, не перабаршчыце з градусам! **Артыкул 12.43 КоАП РБ кажа:** "Выраб або захоўванне фізічнымі асобамі моцных алкагольных напояў (больш за 18 градусаў) больш за 5 літраў цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад 5 да 30 базавых велічынь з канфіскацыяй пазначаных напояў, паўфабрыкатаў і апаратаў".

## 7 Навучыць "няп'ючага" любіць піва



Асаблівa, калі гэта вашая сяброўка (або сябар, на худы канец), то вы значна спросціце сабе жыццё, калі піва будзе вашым агульным інтарэсам. Праверана на практыцы!

## 8 Адарвацца на "Піўная"-паці



Адзіная газета ў Беларусі, якая робіць свае піўныя паці. Бо як той казаў, богу багавацьб, а нам адпачываць! Таму наступнае паці не прымусіць доўга чакаць. Толькі там вы маеце магчымасць правесці час з файнымі хлопцамі і дзяўчынамі рэдакцыі газеты "Піўная", папіць піўка ды адчадзіць пад добрыя музычныя калектывы і ДыДжэяў.

## Сапраўды хочаш сканаць заўчасна?



Усе мы любім выпіць ды павесяліцца. Аднак калі ты змрочны гот ці самагубца-рэцыдывіст, то ты канешне можаш напаследак пракаціцца бухім за баранкай сваёй калымагі – і сам не заўважыш як адправішся да праайцоў. Місія завершаная. Калі ж у цябе яшчэ ёсць нейкія справы ў нашым грэшным Свеце, то рабіць гэтага мы не раілі б.

**8½ Будзь заўжды цвярозым за рулём!**

Чамадан, вакзал, піўная!

# Клуб півападарожнікаў

Месца пад куфаль піва

## Дзе правесці свой летні адпачынак?

**Калі вы яшчэ не вырашылі, дзе правесці гэтае лета, газета "Піўная" прапануе пабавіць час у самых дзіўных барах Свету. Большасць бараў мала чым адрозніваюцца адзін ад аднаго. Іхнія інтэр'еры могуць быць ультрасучаснымі або старамоднымі, вытанчанымі або дэмакратычнымі, але яны рана ці позна знікнуць з вашай памяці. Аднак калі вы наведаеце хаця б адно з намі прапанаваных месцаў, вы не забудзеце іх ніколі. І будзе чым пахваліцца перад сябрамі пасля адпачынку, гартаючы прапахлы півам фотаальбом.**

### У дупле

**"Baobab Tree Bar", Паўднёвая Афрыка**

Калі вы вырашылі-такі паехаць на Чэмпіянат Свету па футболу, то раім вам абавязкова наведаць правінцыю Лімпапо. Тут, у дупле велізарнага баабаба, якому адваліла ўжо 6000 гадоў, можна заліць смутак ад пройгрышу любімай каманды – унутры дрэва-гіганта размясціўся ўтульны барчык. Некалі пра гэта сховішча ведалі толькі абарыгены, аднак цяпер старажытнае дрэва стала сапраўдным аб'ектам паломніцтва турыстаў. У баабаб умясцілася барная стойка, лаўкі і нават улезла дартс-мішэнь для дроцікаў. Пару куфляў у такой атмасферы не перашкодзяць нават у афрыканскім клімаце.





◄ Цесны з першага погляду, баабаб унутры можа ўмясціць цэлую кодлу англійскіх балельшчыкаў: хопіць месца і пінту кульнуць, і кулаком махнуць.

### Са Швейкам

**"U Kalicha", Чэхія**

Аматары творчасці Яраслава Гашэка абавязкова павінны наведаць пражскую карчму "U Kalicha", дзе адбываліся знакавыя падзеі рамана пра Швейка. Менавіта тут пісьменнік прыдумаў вобраз бравага салдата і пісаў першыя часткі рамана пад куфаль-другі "Старапрамену". За сталом ля ўваходу вас сустрэне Швейк уласнай персонай і дэтэктыў-стукач Брэтшнэйдэр. На сценах карчмы – партрэты дзеючых асоб пэндзля Ёзафа Лады ды ўрыўкі з раману. Дуэт трубача і акардэаніста, якія граюць ваенныя маршы часоў Аўстра-Венгерскай імперыі і вясёлыя песні пачатку XX стагоддзя, не прымусяць вас сумаваць. Ужо пасля другога-трэцяга куфля якаснага піва вы не заўважыце, як зацягнеце "гуляць дык гуляць..." на чэшскі манер.






◄ На ўваходзе ў карчму "U Kalicha" вас сустрэне сам Швейк.




Гэта толькі надводная частка айсберга, імя якому "Red Sea Star Bar". З цэнтральнай платформы аж на самае дно вядзе вузкая слізкая драўляная лесвіца, якая прывядзе вас у самае царства Нептуна. ▼








### У труне

**Бар "Вічність", Украіна**

Аматрам пахавальнай тэматыкі ды іншым готам прапануем наведаць курортны горад Трускавец, дзе знаходзіцца бар «Вечнасць», выкананы ў форме велізарнай драўлянай труны. Установа прапануе сваім наведнікам салаты «9 дзён», «Вянок», «40 дзён», бутэрброды з ікрой «Развітальныя», а таксама сала з часныком «Сустрэнемся ў раі». Перад уваходам на сцяне вісіць надпіс «Уваход толькі ў белых тапках!». Труна-бар мае рэкордна вялікія памеры: даўжыня – 20 метраў, вышыня і шырыня – 6 метраў. На яе выраб спатрэбілася 30 кубаметраў драўніны. Ну што ж, трэба браць цёмнае!






▲ "Мемента моры", як гавораць. А за гэта можна і куфаль нечокаючыся. За "Вічнасць"!

### Пад вадой

**"The Red Sea Star", Ізраіль**

Калі вы хочаце адчуць сябе ў скуры славутага Жака-Іва Кусто, то збірайце шмоткі і накіроўвайцеся у горад Эйлат, што на беразе Чырвонага мора, дзе знаходзіцца падводны бар і рэстаран. Яго інтэр'ер пераносіць вас ва ўладанні Нептуна: крэслы нагадваюць медуз, свяцільнікі – анемонавых рыб-клоўнаў, хвалістыя сцены атачаюць вокны, з якіх можна назіраць за флегматычна праплываючымі рыбамі-матылькамі, рыбамі-анёламі ды іншымі дзівоснымі насельнікамі глыбінь Чырвонага мора. Сама тое пад светлае лёгкае, пад рыбку.

### На полюсе

**"Faraday Bar", Антарктыда**

Тым, хто не пераносіць летняй спёкі, раім правесці свой адпачынак на полюсе, напрыклад, паўднёвым. І не пашкадуеце. На антарктычным востраве Галіндэс на навукова-даследчай станцыі імя Вернадскага знаходзіцца "Faraday Bar" – самая паўднёвая кропка планеты, дзе вы яшчэ маеце магчымасць замовіць "Guinness" з пігнвінам-грыль. Тут задаволіць смагу кожны, хто здолее дабрацца да гэтага краю свету. І не забудзьцеся пакаштаваць мясцовага "ярша"! Не май месяц...





◄ Заўсёднікамі гэтага бара на краі Зямлі аказаліся ўкраінскія палярнікі, якія адсталі ад сваёй экспедыцыі ў мінулую навігацыю.

[дыялогі]

# MARKSCHEIDER KUNST:

## “Няма часу, каб бухаць”

Мы не напіваемся перад канцэртамі – хоць ужо

**MARKSCHEIDER KUNST з Пецярбурга на Захадзе, бадай, болей вядомыя, чым у былым Саюзе. Музыка іх – гэта толькі ім вядомы мікс, у якім прысутнічае ска, румба, трохі джазу, крыху рэгі ды іншыя нацыянальныя распевы. Не скажу, што я вялікі фан такой музыкі і міксаў (хоць асобных выканаўцаў ска ці, напрыклад, джазу паважаю), але пару песень на некаторых альбомах у іх сапраўды файныя. Адразу бачна, што людзі добрыя музыкі і разбіраюцца ў той музыцы, якую граюць. Таму папіць з імі піўка, пагутарыць і высветліць, які паняцці яны ўкладваюць у сваю творчасць, было б нармальным баўленнем часу. Ужывую на канцэрце ў Мінску 15 красавіка яны мне спадабаліся – адлабалі чэсна. Заўважна, што яны любяць тое, што граюць, і кожнага “прэ” ад таго, што яны робяць. Чаго амаль не сустрэнеш сярод беларускіх і постсавецкіх гуртоў і выканаўцаў, якія просяць ганарары за пару-тройку тысяч даляраў. Размова з гітарыстам-вакалістам Сяргеем Яфрэменкам, ён жа Ефр.**




Вокладка апошняга альбому “Utopia”, які гурт нядаўна прэзентаваў у Мінску.



ФОТА: ГІПС

– Як вы прыйшлі да гэтай музыкі, якую граеце зараз? Чаму менавіта такая музыка?

Ну, мы ўсе меламаны, калекцыянуем музыку. І з цягам часу сфера нашых інтарэсаў склалася ў такім крыле музыкі. Можна меламаніраваць чыста класічную музыку ці выключна народную, мы збіраем усю музыку. Напрыклад, блюз, які таксама з Афрыкі – гэта шырокае поле дзейнасці. Этнічная музыка, змешаная з розным джазам розных краін свету, дае вельмі цікавы плён. Вось такога кшталту калекцыянаваннем мы і займаемся. Напрыклад, асабіста я люблю старую музыку, якая зараз практычна нідзе не гучыць, не граецца – музыка 20, 30, 40, 50-х гадоў. Стылі, якія ляжаць у аснове ўсіх сучасных музыкальных плыняў, але ў чыстым выглядзе амаль ужо не існуюць – румба, сальса, мерэнга, ска, рокстэдзі.

– Ці такім чынам гэта выглядае? Вы камбінуеце афракарыбскія, лацінскія матывы, разнастайныя стылі, пра якія казаў вышэй, прыўносіце штосьці сваё і жадаеце зрабіць што-небудзь новае.

Ну, накont чагосці новага задачы няма, канешне. Але наконт свайго – без гэтага ніяк, мы усё ж такі не кубінцы і не афрыканцы. Галоўнае, каб гэта не было знарок. Мы стараемся ўсё рабіць з гумарам.




Час ад часу музыкі збіраюць шмоткі для голых грамадзян

– Вы змешваеце розныя музычныя традыцыі і культуры. Але дзе ў вашай музыцы менавіта ваша культура?

З нашага боку гэта культура выканання. Мы не напіваемся перад канцэртамі – хоць бы гэта культурна. Культура ў тым, каб зайграць гэта стыльна і дакладна. Культурна выканаць, каб гэта ўсё не было пошла. Вось, напрыклад, сальса – трохі перасаладзіў і порна ўжо. Разумееш, крок улева, крок управа – і ўсё гэта ўжо неяк дзіўна. Гэтыя песні розных культур і традыцый усё ж такі стварылі мы. Нашае ў гэтай музыцы тое, што яе прыдумалі мы.

– Але самой па сабе рускай музычнай культуры ў вашай музыцы няма?

Уся гітарная культура пабудавана на рускай музыцы. На рамансах цыганскіх. Афракубінская культура ўзяла адтуль вельмі шмат чаго. Знаць і блюз, і кумбія, і сальса, і ска, разумееш?



# Let It Beer!

**Ні для каго не сакрэт, што перш чым лопаць ЛСД і паліць траву, легендарныя “бітлы” пачыналі свой творчы шлях з піва. У гонар гэтага ў Мінску адбудзецца грандыёзны фэст, прысвечаны “THE BEATLES”.**

Не ведаем, ці прыедзе на фэст Пол Макартні, але можна будзе паслухаць ягоныя шлягеры ў выкананні гуртоў:

– The STAMPLETONS
– SILICON
– GREEN FENCE BAND
– THE APPLES
– LOVE IS
– ARTEFACT

Да вашай увагі таксама:

– 4 кропкі продажу піва прама на танцавальнай пляцоўцы!
– Танцпол пад адкрытым небам. Толькі жывы гук!
– After-party у “R-club” да самай раніцы. Тэматычная рэтра вечарына. Уваход чэкбар.

Шкада, што да гэтага моманту не дажыў Джон Ленан...

***Кошт квіткоў:***
*Першыя 200 штук – 10.000*
*Папярэдне – 15.000*
*У дзень канцэрта – 20.000*

***Месца продажу квіткоў:***
*крама “Omnisound”, пр. Незалежнасці, 58, пав. 240 (ст.м. Якуба Коласа, ГЦ “Сталічны”).*
*Час працы: 10:00 - 20:00*

***Кантакты:***
*МТС (029) 232 18 72*
*Velcom (044) 793 13 64*



ФОТА: ГіПС






Усё, што звязана з гітарай, адназначна гэта звязана з Расіяй.

– Ты так лічыш?

Мацнейшая школа ігры на гітары была ў Расіі. Расіяне вынайшлі сяміструнную гітару. А прыпомні аркестры гітарыстаў, якія існавалі ў рускім афіцэрстве канца XIX стагоддзя.

– Добрых музыкаў у нас можа і шмат, але вельмі цяжка з фантазіяй. Няма чагосьці новага, цікавага і якаснага. Як лічыш?

Я не лічу, што трэба штосьці прыдумляць. Не трэба прыдумляць ровар, трэба на гэтым ровары ўмець катацца. Чувакі са SKATALITES распавядалі, што на Ямайцы некалі быў рускі губернатар, і ён прывёз туды кадрыль. Ведаеш, як гучыць кадрыль – “ум-ца ум-ца”.

– Ну, як полька – “ту-па ту-па”.

Так, і вось што яны граюць ска – “ту-па ту-па”, на слабую долю – выключна ў памяць пра тую кадрыль.

– Што ты скажаш на крытыку такога роду? Я прыйшоў паслухаць ска, ці пачуць там джаз, а там незразумела што.

Я скажу, што калі мы граем ска, то гэта ска. А ска – гэта ў любым выпадку джаз. Як асабіста мне казаў заснавальнік гэтага стылю бубнач SKATALITES, усё гэта яны зрабілі, груба кажучы, таму, што не было інфармацыі. З дрэннага радыё штосьці злавілі, тэму знялі, слоў не ведаем. А далей што рабіць? Імправізаваць. А дзе імправізацыя, там джаз. Любая музыка з імправізацыяй – гэта джаз. Нават хэвіметал, калі гэта сола не запілаванае ад пачатку да канца. Ну вось. А таму чалавеку, які так думае, хачу сказаць, што ён не адзін. А асабіста я не магу слухаць паўтары-дзве гадзіны музыку аднаго кірунку, які б гэта не быў мой любімы гурт. У мяне на “ай-подзе” заўсёды стаіць шафл, усё скача туды-сюды. Так цікавей.

– Вас 9 чалавек, граеце ўжо даўно, як вы даходзіце да таго моманту, калі ўсе шчаслівыя і атрымліваецца новая песня?

Здараецца, і не даходзім. Бывае ёсць песня. Ясна, што яна будзе, напрыклад, у такімсьці стылі. Усе хлопцы культурныя, усім зразумела, што граць – бубнач так, гітарыст так, басіст туды, дудкі сюды. І калі аранжыроўка склалася, тады, мабыць, песня гатова. Але кожны раз усё па-рознаму. Гэты канцэрт таксама будзе іншы, не такі, як заўсёды. Аднолькава мы не граем – гэта нудна.



Духавая секцыя гурта выкладваецца па поўнай. Гэта, бадай, галоўны козыр MKunst, які мелі магчымасць зацаніць і мінскія слухачы

– Чаму не здымаеце кліпаў на ТБ?

Ну вось з новай плыты мы думаем зняць кліп. Справа ў тым, што няма добрых перадач, ані праграм, ані радыёстанцый чалавечых ужо нідзе не засталося. Які сэнс? Не хочацца мільгаць маім няголеным тварам, упісвацца паміж Аленай якой-небудзь Монінай і Пашам Зюзіным. Няхай жывуць сваім жыццём. Акрамя таго, сярэдні ўзрост гледачоў MTV – 12 гадоў. А навошта дзецям гэтае рокстэдзі? З часам гэта можа прыйдзе, але не з “яшчыка”.

– Разумею цябе. Няма сэнсу падаваць сябе ў гэтым кантэксце музычнай індустрыі. Дзеці не пабачаць нібыта альтэрнатыўнай творчасці, якая ліецца ў тым шэрагу іншых аднастайных кліпаў з эмцівішнага экрана. Як музыкальны калектыў лічыце сябе незалежным калектывам?

Як калектыў, мы залежым самі ад сябе. Гэтага мы доўга дабіваліся і яшчэ нават не дабіліся да канца, але сёе-тое залежыць ад нас, слава богу. Не ад прадзюсераў і кантрактаў. Хоць у нас ёсць лэйбл, які нас выпускае, але яны ўсе культурныя, тактычныя людзі, якія не лезуць у нашыя справы. Гэта вельмі прыемна. Яшчэ важны момант – пра андэграўнд. Тое, што ў нас учора было андэграўндам, сёння ўжо гандлёвая марка. SEX PISTOLS прадаюць не горш за Макдональдс.

– Твая праўда. Так заўсёды было і будзе, бо часта ў людзей тут адсутнічае добрае разуменне таго, чым яны займаюцца. Альбо няма якіх-небудзь прынцыпаў і ідэй. Ты знаёмы з беларускімі, так бы мовіць, незалежнымі калектывамі?

Безумоўна. З гэтым вельмі добра ў Беларусі. Маё знаёмства з беларускай незалежнай сцэнай пачалося з гуртоў “РАСПИЛИЛ И ВЫБРОСИЛ” і “ЦВЕТЫ”, якія прыязджалі некалі ў клуб “Там-Там” да нас, дзе мы жылі і працавалі. У Беларусі ёсць столькі цікавых, абалдзенных рабят, якіх няма ў нас, разумееш? Напрыклад, “КАССИОПЕЯ”. Кабарэ гэтае, дзе дзяўчына пяе, “СЕРЕБРЯНАЯ СВАДЬБА”. Слухай, між іншым, вельмі добрыя вясёлыя рабяты.

– Вы не раз былі ў Еўропе. Распавядзі чытачу, у чым розніца, як там ідуць справы.

У нас не хапае якаснага выканання сваіх абавязкаў усімі. Гэта значыць калі чалавек кладзе асфальт, ён павінен класці яго якасна. Грае музыку – павінен быць малайцом. Гэтага не хапае ў нас. Не магу сказаць, што я б там жыў. Хіба толькі ў Берліне. Хачу сказаць, што свабода і г. зв. “ўсёдазволенасць” – розныя рэчы. Амстэрдам, напрыклад, чорны горад. Змрочны. Што гэта? Ці гэтага жадаў Боб Марлі, калі спяваў пра свой любімы лігалайз? Не, не гэтага. Не гэтага бізнэсу – гандлю ўсёй гэтай дрэннію. І я не хачу, каб гэта было ў нас. З другога боку, калі каму штосьці трэба – то свіння гразі знойдзе. У добрым сэнсе слова.

– Пасля канцэрта дзе-небудзь на паўднёвым захадзе Германіі піва любіце кульнуць?

Мы наогул стараемся не набухвацца. Таму што гэта ўжо неяк прайшло. Такі перыяд ужо прайшоў. А ў Еўропе ці Амерыцы мы звычайна ў туры. Наступны тур у нас – 11 канцэртаў. Кожны дзень канцэрт з адным выходным – няма часу каб бухаць. А паспрабаваць мясцовага піўка ў якой-небудзь маленькай вёсачцы – гэта, бясспрэчна, мілая справа. З узростам пачынаеш разумець, што і печань пакутуе і сэрца. Адпадае інтарэс.

– Скажы што-небудзь пра беларускае і расійскае піва?

У Расіі піва, нажаль, скончылася. Акрамя як у Самары “Жыгулі”, і тое, што я куплю на Андрэеўскім кірмашы ў Пецярбурзе на разліў. Болей піва я ўвогуле ў Расіі не бачу. “За*балтика” – яна ўжо ўсіх дастала. А ў Беларусі – у вас ёсць добрыя і даступныя, я так разумею, гатункі піва.

– Ну і калі жадаеш што дадаць ад сябе.

Лета наступае, добрага надвор’я. Настрою выдатнага. Каб жыць можна было. Паменей непрыяцеляў, паболей сяброў. All you need is… плоў.

Гутарыў
**Русел К. МАРОЎСКІ**



## ДАВЕДКА

**“MARKSCHEIDER KUNST” граюць больш за 15 гадоў, мелі пару амерыканскіх, шмат еўрапейскіх тураў, дзе некалькі разоў гралі ў “сацыяльных цэнтрах” ды легальных сквотах. Канцэртавалі разам са “SKATALITES”, “MANU CHAO” ды “Septeto Nacional de Cuba Ignacio Pineiro” – любімы ВІА Фідэля Кастра. Маюць сумесныя трэкі з “TEQUILAJAZZ” і Барысам Грэбеншчыковым і яго гуртом, з кім былі рады аб гэтым дамовіцца. У кінастужцы “Питер FM” гучыць шмат песень MKUNST, запісалі трэк да фільма “Кісларод”, за што атрымалі прыз на “Кінатаўры”. Розныя ўдзельнікі ансамблю робяць іншыя музычныя праекты: “настальгічна-патрыятычны калектыў “TRESMUCHACHOS & COMPANIEROS”, у якім у ролі трох мучачас выступаюць Ефр, Кірыл і Дзяніс Рачкоў, а ролі кампаньерас выконваюць астатнія ўдзельнікі “MARKSCHEIDER KUNST” (з сайта mkunst.ru), а таксама музычныя праекты “ВОВА КАТЯ” і “OPTIMYSTICA ORCHESTRA”.**



## Элтан Джон Чаргінца не падвёў

Неяк на дзіва проста праравўся сэр Элтан Джон да беларускага слухача, мінаючы страшны й магутны Грамадскі савет па маральнасці на чале з пісьменнікам Чаргінцом. Апасенні, што вакол Элтана разгарыцца такі сама скандал, як і вакол нядаўняга канцэрта “RAMMSTEIN”, не апраўдаліся. Прагледзеўшы запісы папярэдніх выступаў брытанскай поп-зоркі, маралезнаўцы не знайшлі ў выступах спевака і ягоных манерах нічога крамольнага і непрыстойнага. Алілуя!

Elton John in Minsk

the home of a legend…

Акуна матата! Запрашаю ўсіх на свята!

[рэпартаж]

ДЭЛЕГАЦЫЯ ТВОРЧАГА КАЛЕКТЫВУ ГАЗЕТЫ "ПІЎНАЯ" НАВЕДАЛА ЗАВОД ПА ВЫТВО

# BEAVER:

# Жывей за ўсіх жывых

"Правильно сваренное ж
природных витаминов
Главное – не




Не! Гэта не легендарны "Ангар 18", дзе амерыканцы хаваюць лятаючую талерку прышэльцаў. Так выглядае той самы агрэгат, на якім вараць славутае піва.

**"Из**
**горит**
**рочы**
**брыс**
**Адое**
**пасп**
**за са**
**стаго**
**ючы**
**дзея**
**імпер**
**ж я**
**насам**
**глядз**
**напер**
**зёну**
**убачы**
**кашм**
**яго**
**нула**
**апты**
**А ка**
**безна**
**руска**
**прам**
**пачат**
**час р**
**Саюз**
На п
ваючы
піўза
што
атрым
звара
ма з
разба
цётка
ленеч
ж зд
свой
гадзін
мухац

# Дзе знайсці газету "Піўная

**Бар "ЯПОНСКІ БОГ"**
г. Мінск,
вул. Талбухіна, 4
(ст.М."Парк Чалюскінцаў")
Толькі жывая музыка, 7 дзён на тыдзень, 30 гатункаў піва ад 4.000 руб.
Штодня 14:00 - 01:00

**Кафэ-бар "ДОБРЫЯ МЫСЛІ"**
г. Мінск,
вул. Магілёўская, 12
(ст.М."Інстытут Культуры")
Зменныя мастацкія выставы, продаж карцін, кніг, сувеніраў, кожны вечар – жывая музыка
Штодня 11:00 – 23:00

**Клуб "РЭАКТАР"**
г. Мінск,
вул. В.Харужай, 29
Правядзенне канцэртаў і вечарын, дыскатэк, карпаратываў, бокс-мерапрыемствы, 4 бары
Штодня 22:00 - 06:00

**Клуб "R-CLUB"**
г. Мінск,
вул. Сурганава, 26
(ст.М."Акадэмія Навук")
Правядзенне канцэртаў, вечарын, прэзентацый, банкетаў
Штодня 11:00 – 05:00

**Страўня "КАМЯНІЦА"**
г. Мінск,
вул. Першамайская, 18
Утульны паграбок, вялікі TV-экран, трансляцыя ўсіх значных падзей, караоке, княская зала, беларуская кухня, жывое піва
Штодня 12:00 - 23:00

**Піццэрыя-кавярня-паб "КОЛЕСО"**
г. Мінск,
вул. Куйбышава, 40
(ГЦ "Паркінг")
Еўрапейская кухня, кава, піцца, піва, грыль. Правядзенне карпаратываў.
Штодня 10:00 – 01:00

**Амерыканскі бар "DOODAH KING"**
г. Мінск,
вул. Берсана, 14
(ст.М."Пл. Незалежнасці")
Амерыканская і мексіканская кухні, музычныя вечарыны, няма напояў, у якіх няма алкаголю
Штодня 11:00 - 05:00

**Піўная "ГІСТОРЫЯ"**
г. Мінск,
1-ы Загарадны зав., 20
(ст.М."Маладзёжная")
Разліўное піва, жывая музыка, фестывалі, спартыўныя трансляцыі
Штодня 12:00 - 24:00

# ...РЧАСЦІ ЖЫВОГА ПІВА "BEAVER". І ЗАСТАЛАСЯ Ў ЗАДАВАЛЬНЕННІ...

...ивое пиво – это источник
...в и полезных веществ.
...перебрать!"



Віталь Баброві̌ч, хросны бацька піва "Beaver", з'яўляецца да таго ж заўзятым паляўнічым



Магчыма, што менавіта гэты бабёр даў назву славутаму піву



На стале дырэктара стаіць спецыяльны халадзільнік з кегам свежага "Beaver'a"

**...іскры пламя воз...тся" – гэтыя пра...я словы дэка...ста Аляксандра ...ўскага бальшавікі ...яшаліся застаўбіць ...абой у пачатку XX ...ддзя, адбяля... свае хуліганскія ...нні ў Расійскай ...рыі. Але не маглі ...ны ведаць, што ...мрэч аўтар верша ...зеў нашмат далей ...рад, і ў адну сцюд...ю сібірскую ноч ...ыў той сапраўдны ...мар, пасля якога ... і падштурх... напісаць гэтыя ...містычныя радкі. ...шмар той быў пра ...адзейны стан бела...ай піваваранай ...мысловасці на ...тку 90-х – пад... развалу Савецкага ...за...**

...напялішчы прастой...ых іржавеючых ...водаў з рабочымі, ... месяцамі не ...млівалі заробак, ...нага нямаведа...чаго, а потым шчэ й ...аўленага бязмернымі ...мі пойла, адна ма...нкая іскрынка ўсё ...долела падтрымаць ... агеньчык у ліхія ...ны і пакрыху раздзь...ць сапраўднае полымя якасці на нашай беларускай зямлі. А імя таму полымю – жывое піва "Бівер"…

Першыя крокі, тобок першыя літры залатога напою паліліся па сталічнай вуліцы Карла Маркса, 5. Навенькае венгерскае абсталяванне, нержавеючая сталь, інгрэдыенты найвышэйшай якасці – вось умовы, якія спатрэбіліся, каб набыць першых аматараў жывога свежага піва. Магутнасць спачатку была зусім невялічкая – каля 11 тон, па мерках буйных півавараў – чысты мізэр. Але ніхто і не рваўся зварыць як мага больш, бо на першае месца былі пастаўлены якасць і задавальненне спажыўцоў.

А вось калі гэта было дасягнута, тады можна было сабе дазволіць нарошчваць пакрыху вытворчасць, на радасць новых прыхільнікаў, колькасць якіх расла з году ў год.

Мінулі нестабільныя дзевяностыя з іх кідаламі ды "чорнымі аўторкамі", пасля якіх мноства прэтэндэнтаў на хмяльную карону сышлі ў нябыт. А што ж здарылася з "Біверам", ці здолеў ён пераадолець цяжкасці ды застацца верным сваім прынцыпам? Жывей за ўсіх жывых!

Зусім побач са сталіцай, у паўднёва-ўсходнім прыгарадзе Сціклева ўзмываюць увышыню бліскучыя цыліндра-канічныя танкі для браджэння. Уласная свідравіна з артэзіянскай вадой, якая потым шчэ фільтруецца і змякчаецца – аснова добрага густа. 5 гатункаў, 500 тон, таксама няшмат у параўнанні з аб'ёмамі піўных карпарацый, але ўжо і жыхары абласных цэнтраў могуць дазволіць сабе прыемнасць выпіць жывога піва – уласная служба дастаўкі працуе як швейцарскі гадзіннік – дыяпазон "жыцця" піва 2 тыдні, вось чаму ўсё зроблена так, каб прадукт трапляў да спажыўца на наступны дзень пасля гатоўнасці.

"Главное для нас – чистота и стерильность на протяжении всего процесса производства пива. Кроме того, мы тщательно следим за кегами, в которых оно доставляется потребителю, – кажа Віталь Баброві̌ч, заснавальнік вытворчасці "Бівера", – Пиво ведь не обманешь, оно сразу почувствует халтуру и просто-напросто испортится". Нават галоўны санітар Расіі, руплівы Генадзь Анішчанка (той самы, якому не спадабалася наша малако мінулай вясной) не меў ніякіх пытанняў, калі было вырашана пабалаваць масквічоў сапраўдным півам. Глядзіш праз запацеўшае шкло куфля на нібы натуральна жывыя маленечкія бурбалкі, якія караскаюцца ўверх і думаеш – можам жа, калі захочам!

## ПЛЮСЫ І МІНУСЫ Г.ЗВ. "ЖЫВОГА" ПІВА

| ПЛЮС | МІНУС |
|---|---|
| 1. Нефільтраванае і непастэрызаванае, без кансервантаў і стабілізатараў, піва захоўвае ўсе карысныя мікраэлементы і культуры піўных дражджэй. Калі кажуць пра карысць піва для арганізму, то маюць на ўвазе менавіта яго. | 1. Піва мае досыць малы тэрмін годнасці, звычайна недзе 5-7 дзён. |
| 2. Піва мае больш насычаны багаты смак і прыемны водар, чым выгадна адрозніваe яго ад звычайнага "магазіннага". | 2. Патрабуе больш далікатных умоў захоўвання. Яно можа забрадзіць ужо пры пакаёвай тэмпературы. |
| 3. Заўжды хочацца паўтарыць! | 3. У адрозненні ад звычайнага "магазіннага" яно па кошце аб'ектыўна даражэйшае, бо праходзіць поўны натуральны цыкл варэння. |

Месца пад куфаль піва

*"У мяне ёсць мара, што ў адзін цудоўны дзень нацыя падымецца і зразумее, што піва павінна быць жывым… Я мару аб тым дні, калі з нашай надзеяй і верай мы зможам пракласці сабе шлях з гары пастэрызацыі на скалу карысных рэчываў ды мікраэлементаў. Гэта вера дапаможа нам працаваць разам, абсмажваць солад разам, змякчаць ваду разам, ведаючы, што наступіць дзень нашай асалоды. Але на шляху да гэтага праведнага дня мы не павінны парушаць тэхналогію прыгатавання… Стагоддзі таму нямецкія піваварЫ, дух якіх сімвалічна ахінае нас зараз, стварылі "Закон аб чысціні піва". Гэты знакаміты дакумент стаў промнем надзеі для мільёнаў аматараў піва, што задыхаліся пад цяжарам высучваючай і апаляючай няякаснасці. Ён прыйшоў, як радасны золак пасля доўгай ночы рабства.*

*Але зараз, стагоддзі пасля, мы апынуліся перад рэальнасцю таго трагічнага факту, што большасць піва ўсё яшчэ пакідае жадаць лепшага.*

*Стагоддзі пасля, піва ўсё яшчэ акутае ланцугамі непрафесіяналізму і нядбайнасці.*

*Стагоддзі пасля, востраў піва пераследуюць у атачаючым яго бырла-гарэлачным беспакараным акіяне.*

*Стагоддзі пасля жывое піва адчувае сябе выгнаннікам у сваёй уласнай краіне.*

*Вось чаму "Жывое піва" прыйшло сюды, каб прыцягнуць увагу да гэтага жахлівага становішча.*

*Мы прыйшлі на гэтае свяшчэннае месца і таму і дзеля таго, каб нагадаць Беларусі аб скрайняй неадкладнасці праблемы. Настаў час рэальна ажыццявіць абяцаную якасць. Настаў час выйсці з чорнай цясніны бязмежнага п'янства на залітую сонцам дарогу памяркоўнага, культурнага спажывання!.."*



**Марцін Лютэр Кінг**
*(КАЛІ Б ЁН ЗМАГАЎСЯ ЗА ПРАВЫ АМАТАРАЎ ПІВА)*

# ...я" і прыемна папіць піва

[бірманія]

# Спачатку быў голас. І голас быў “ячменны”






• Понеже ѿприроженим Звери ходящие въпу
стыни знають ямы своя • Птици летающие повозъ
духу ведають гнезда своя • Рибы плывающие помо
рю иерекахъ чують виры своя • Пчелы итымъ подо
бная боронять ульевъ своихъ • Такожъ илюди игде
иским водилися инапоены суть поволе ктому пиун
яку великую ласку имають •



**Вось так мусіла б выглядаць гравюра з выявай беларускага піўнога першадрукара Алега Зайцава са слаўнага града Наваполацка ў скарынаўскія часы. “...Такожъ и люди и где и с ким водилися и напоены суть по воле к тому пиуняку великую ласку имають”.**

**Пра газету “Ячменный голос” – “для тех, кто ценит ПИВО” – я неяк чуў раней. Як мне распавядалі, справа была ў далёкія 90-я гады мінулага стагоддзя. Аднак ні яе выдаўцоў, ні пра далейшы лёс газеты я не ведаў абсалютна нічога. Які было маё здзіўленне, калі падчас нядаўняй 12 міжнароднай спецыялізаванай выставе “Піва. Віны. Напоі”да стэнду газеты “Піўная” падыйшоў нейкі чалавек і сказаў: “Я такасама выдаваў раней газету на піўную тэматыку”. “Няўжо “Ячменный голос”?” – з іроніяй спытаўся я. “Менавіта яе!” – нечакана адказаў незнаёмец, які аказаўся ні кім іншым як былым рэдактарам славутай газеты Алегам Зайцавым. Я не мог не задаць Алегу пару пытанняў.**

– Алег, што Вас падштурхнула пачаць выдаваць друкаванае выданне на той час досыць спецыфічнай тэматыкі?

– Любоў да піва і жаданне паспрабаваць свае сілы ў якасці галоўнага рэдактара. Да 1996-га года я ўжо меў досвед выдання трох нумароў газеты “Мужчинский клуб” ў якасці галоўрэда і трох нумароў газеты “Вестник культуры”, дзе была і такая тэма. “А чаму б не развіць піўны праект, прысвяціўшы яго не аднаму асобна ўзятаму заводу, а ўсёй галіне ў цэлым?” – падумаў я. І вырашыў рызыкнуць.

– Гэта быў адпачатку камерцыйны праект?

– Ну, калі лічыць, што шмат у чым, дзякуючы “Ячменному голосу”, я здолеў вырашыць шэраг матэрыяльных пытанняў, то пэўна што камерцыйны. Хаця першапачаткова мне проста хацелася падацца ў “вольнае плаванне”, на свой хлеб. І адчуваў у сабе нерэалізаваныя магчымасці арганізатара, камерцыйныя здольнасці. Дарэчы, першапачаткова рэдакцыя газеты юрыдычна знаходзілася ў маім родным Полацку. Фактычна ”хросным бацькам” выдання можна лічыць Полацкі піўзавод, які першым даў рэкламны артыкул пра сябе і тым самым пакрыў усе выдаткі на стартавы выпуск.

– Чаму менавіта “Ячменный голос”, хто прыдумаў назву, што адсылае да папулярнай тады маркі піва?

– Назву прыдумаў хтосьці з супрацоўнікаў аддзела маркетынгу піўзавода “Крыніца”. Справа ў тым, што за два гады да з’яўлення майго выдання, у 1994-ым годзе, гэта прадпрыемства выпусціла два нумары маляўнічай рэкламнай газеты з аналагічнай назвай. Але паколькі гэтым справа і абмежавалася, і піўзавод на мой запыт пацвердзіў, што не збіраецца працягваць выпуск, Дзяржкамдруку дазволіў мне выкарыстоўваць аналагічную назву, зарэгістраваўшы газету.

– Чаму выданне такой, з нашага пункту гледжання, папулярнай тэматыкі спыніла сваё існаванне?

– На тое было некалькі прычын. Па-першае, я даспеў да выдання вытворча-практычнага часопіса. Па-другое, да таго часу ў галіне півавараня зноў пачалися крызісныя працэсы. І, каб “не патануць” разам з піўварамі, вырашыў пашырыць як кола сваіх чытачоў, так і кола сваіх рэкламадаўцаў. Калі я спытаў у рэкламадаўцаў, што ж яны чытаюць у “Ячменном голосе”, высветлілася, – гэта была старонка навін па галіне, эканамічная паласа і ўласна рэклама. Астатняе іх мала цікавіла, а паколькі жыла газета, у асноўным, дзякуючы рэкламе, а не падпісцы, то я вымушаны быў арыентавацца на меркаванне рэкламадаўцаў.

– Наколькі ўвогуле культура піва і яго спажывання ў Беларусі традыцыйная? Ці не навязаная яна нам звонку?

– Калі лічыць спецыялізаваныя шапікі і павільёны, прапахлыя рыбай і сушкамі, з півам, разбаўленым вадой, у гарадах і вёсках БССР, то гэтая культура была традыцыйная для таго часу. Пра больш раннюю, дарэвалюцыйную, нічога сказаць не магу, бо ведаю пра яе толькі з іншых крыніц. Зараз, быццам бы, ідзе нейкае набліжэнне да еўрапейскіх стандартаў, але вельмі і вельмі павольнае. Да таго ж у нас, у беларусаў, свае асаблівасці ў спажыванні і піўных прыхільнасцях. У іх не прынята піць піва з рыбай, бо гэтыя абодва прадукты лічаць несумяшчальнымі, у нас жа – гэта норма. І шмат чаго іншага.

– Ці можна лічыць піваўжыванне грамадскай з’явай, што ўплывае на палітыку?

– Ужыванне піва, вядома ж, у памераных колькасцях, гэта неад’емны атрыбут функцыянавання грамадства. Гісторыя чалавецтва ведае нямала красамоўных, шырокавядомых прыкладаў уплыву піва на палітыку: пачынаючы са славутага “мюнхенскага путчу” і заканчваючы былой Партыяй аматараў піва Беларусі. Наколькі я ведаю, дзеючая ўлада да піва ставіцца з халадком і асабліва яго не вітае. Так што ў нашых піваварaў і піваманаў невялікія шанцы ўварвацца на палітычны Алімп, а таксама паспрабаваць уплываць на палітычную сітуацыю ў краіне. Гэта вам не Чэхія і не Ірландыя.

– Ці загубяць нядаўнія драконаўскія абмежаванні па распіцці піва ў грамадскіх месцах саму культуру айчыннннага піваўжывання?

– Думаю што не, але вось тое, што па прадпрыемствам галіны ўдарацць даволі моцна, а значыць і па папаўненні бюджэту беларускай дзяржавы таксама, – гэта дакладна. Пазней, я лічу, гэта абавязкова ўсвядомяць бацькі-ініцыятары такіх жорсткіх рамак. Усвядомяць – і адступяцца.

– Вы самі, дарэчы, якое піва ўжываеце?

– Светлае. Люблю і “Аліварыя залатое”, і “Стары замак”, і “Рэчыцкае хмяльное”, і “Брэсцкі Портэр”. Часцяком “балуюся” расійскім “Gold Beer”, у яго стабільная якасць. З безалкагольнага аддаю перавагу піву «Сокол» або «Балтика нулёвочка».

– І пад якую закуску?

– І пад фісташкі, і пад вэнджаныя кольцы кальмараў, і пад крэветкі, і пад сыр… Мяснымі вострымі закускамі таксама не грэбую. Падабаюцца адмыслова прыгатаваныя свіныя вушкі. А яшчэ — хлябцы, цёртыя часныком, салёны параны гарох…

Гутарыў
**Аляксей СТРЭЛЬНІКАЎ**

## *ПІЎНОЕ ДАСЬЕ*

## Алег Зайцаў

**Нарадзіўся ў 1968 годзе ў горадзе Наваполацку. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ. З 1996 па 2000 гады быў заснавальнікам і выдаўцом газеты для аматараў піва і піваварaў “Ячменный голос”. Стаяў ля вытокаў стварэння Беларускай асацыяцыі піваварaў “Белпиво”. З 2000-га года з’яўляецца заснавальнікам і выдаўцом вытворча-практычнага часопіса “Империя напитков”. Пісьменнік, публіцыст, выдавец. На сённяшні момант узначальвае установу “Литературный свет”, якая таксама выдае вытворча-практычныя часопісы “Молочный продукт”, “Кумпячок”, літаратурна-публіцыстычны часопіс “Западная Двина”, газету “Вестник культуры”, кнігі. З 2009 года абраны старшынём Беларускага літаратурнага саюзу “Полоцкая ветвь”. Аматар піва з 25-гадовым стажам.**

## *СТАРАЖЫТНАСЦЬ*

## Пра піва – на гліняных таблічках!

Сёння ўжо мала каго здзівіш наяўнасцю спецыялізаванай піўной прэсы: “Піўная”, “Bier”, “Beer magazine”, “Bieres et plaisirs”... У Штатах нават ёсць адмысловы тэлеканал “Beer TV”. Аднак мала хто ведае, што першымі завялі моду пісаць пра піва былі ўсё тыя ж шумеры – вынаходнікі ўласна ячменнага напою. Пра гэта сведчаць гліняныя таблічкі, якія былі знойдзеныя падчас раскопак на месцы шумерскіх гарадоў Ур і Кіш. Вось што піша адна з такіх “газет”: “Півавары з горада Ур, хвала богу Энкі, зварылі цудоўны светлы лагер. Між тым піва, якое імпартаваў з Кіша купец Гільгамеш аказалася поўным кіслым адстоем. Хай пакарае іх Мардук!” Як бачым, мінулі тысячагоддзі, а тэматыка мала чым адрозніваецца ад сучаснай.




**Справа: адзін з экспанатаў Брытанскага музея. Першая піўная клінапісная газета. Шумер, каля 2400 г. да н.э.**

UNITED TESTS OF BEER. vol. 3

Месца пад куфаль піва

# Піва, якое нас здзіўляе

**Усе хоць раз траплялі ў сітуацыю адсутнасці выбару. Напрыклад, заходзіце вы спякотным летнім днём у краму, каб набыць бутэлечку якога-небудзь піўка. Але зірнуўшы на паліцы, адпадае ўсякае жаданне. Больш-менш прыстойны асартымент знойдзецца хіба толькі ў гіпермаркетах, але і там, па праўдзе кажучы, не фантан.**

А ў прадуктовым магазіне, які знаходзіцца пад бокам, звычайна ўсяго некалькі гатункаў айчыннага ды столькі ж расійскага піва. Ды й тое адрозніваецца адно ад другога толькі формай бутэлек. А ўнутры – аднолькавая нягеглая вадкасць мутнаватага колеру. Што там ужо казаць пра вясковыя крамы, дзе часцяком з-за пратэкцыяніцкіх мер на прылаўках горда красуецца толькі прадукцыя абласнога піўзавода.

Іншая справа – замежжа. Кожны, хто калі-небудзь выязджаў за бугор, асабліва ў заходнім кірунку, памятае свой першы паход па піва. Вочы разбягаюцца ад разнастайнасці. А калі пачынаеш пералічваць на беларускія рублі, то атрымліваецца ледзь не танней за нашае! І жаба душыць і шэпча на вуха: "Бяры яшчэ, бо тутэйшыя ўсё разбяруць". Як вынік такой мешаніны – перадоз і цяжкі бадун. І толькі праз пару дзён пачынаеш піць піва не спяшаючыся, уважліва чытаючы этыкеткі, каб выбраць нешта адметнае, незвычайнае.

Хочацца верыць, што калі-небудзь "загляне сонца і ў наша ваконца", і тады і ў нашай краіне будзе такі ж шырокі выбар любімага напою. І кожны сумленны грамадзянін, ці то мэнэджэр пасля працы ў офісе, ці то селянін пасля праполкі бульбы, зайшоўшы ў краму, знойдзе прадукт, адпаведны свайму густу. А пакуль застаецца толькі глытаць сліну ды зайздросна паглядаць у бок замежных півавараў. А паглядзець і сапраўды ёсць на што. Прадстаўляем трэцюю частку падборкі незвычайных гатункаў піва.

## 1. "Ты кефир местный пробовал?"

Прызнайцеся, было хоць раз такое, калі з перапою хочацца піва, а арганізм прымае толькі кефір? Відаць пасля адной з такіх папоек у галаву малочнага тэхніка з Францыі Марсэля Беснара трапіла конгеніяльная думка сумясціць абодва гэтыя цудоўныя напоі. Піва "Lactiwel" зроблена з малака і соладу і варыцца як звычайнае, за выключэннем таго, што замест піўных дражджэй выкарыстоўваюцца дрожджы кефіра і малочнакіслых бактэрый. Яно мае бледна-жоўты колер, крыху салодкі смак і ўтрымлівае ўсяго 2% алкаголю – самае яно! Зранку.

## 2. "Любоф-маркоф"

Усім вядомая японская самабытнасць і арыгінальнасць. Вось і на гэты раз півавары кампаніі "Abashiri" з Краіны ўзыходзячага сонца пераўзыйшлі самі сябе – зварылі піва з морквы. Іхні Carrot Draft мае моцнасць 5%, але маркоўныя пары ўстаўляюць так, што абсэнт і блізка не стаяў. Пачытайце толькі, што піша дэгустатар пасля дзвюх бляшанак па 0,33 літры (пераклад з японскай – Google translate). Каментар, як кажуць, залішні...

*"Калі я вярнуўся дадому на Новы год, але я ўзяў на памяць з сваякамі, у спіну "ідзе з ім", адзін мяч і гарбузы па некаторых прычынах, гэта дало мне пару піва. І сказаць, што гэта піва - морква праект. Дарэчы, я сваякі сваякоў, напрыклад, працоўных адносінаў, функцыянавання гэтага сайта не можа гаварыць. Чаму яны зрабілі гэта смешна піва? Што было не трэба, ці што? (Смяецца) Такім чынам, піў далейшым "Абашыры прэпарата з морквы!". Але я не думаю, што які-небудзь прычыне жэньшэнь іншай спецыяльнасці Абашыры. Памятаеце, у мінулым годзе, што карова была Васі моркву. На дадзены момант, але, як я сказаў, што ён быў узяты за паказ маркоўны сок, ці, магчыма, гэта магло б быць. Колер, я нібыта як яркі кактэйль апельсіна. Водар піва. У дадатак да гэтага, я адчуваю сябе саладкаваты пах. Горыч светла і лёгка п'е. Смак піва, вядома, слабы смак жэньшэнь. Не, а не па густу жэньшэнь "цвёрдых раслінных" густ, які я люблю. Гукі добрага здароўя. (Смяецца)"*

## 3. "Паеў часныку – каня спыніў на скаку"

Бельгійская кампанія "Beer, Bed and Breakfast" прэзэнтуе часнычнае піва "Jessenhofke". Яно мае туманны бурштынавы колер і востры смак. І безумоўна – прыемны лёгкі водар. Аўтары гэтага шэдэўра падкрэсліваюць, што часнык у вытворчасці некаторых гатункаў піва пачалі выкарыстоўваць яшчэ старажытныя егіпцяне. Алкаголю ў ім – 8%, так што лепшага сродку для прафілактыкі грыпу не прыдумаеш. Да таго ж і вампіры кусаць не будуць.

## 4. "Піва без гарэлкі – грошы на вецер"

На захадзе гарэлка асацыюецца выключна з Расіяй. А што такое Расія - "Babushka", "Matrioshka", "Shapka", "Perestroika" ну і вядома ж "Sputnik". Іспанскія піваробы з бровара "La Zaragozana S.A." доўга не думалі і менавіта так і назвалі свой напой – "SPUTИK". Гэта піва з араматам гарэлкі. Яскравы смак саракаградуснай наводзіць на думку, што ўсё ж такі правільней было б назваць яго "YOЯSH". Алкаголю ў ім 5,9%, а каштуе гэтае дзіва ўсяго 1,20 еўра. Варта адзначыць, што баланс захаваны выключна правільна, таму піва заходзіць як па маслу.

## 5. "Белый-белый, савсэм горячий!"

З 1989 года ў піваварні Huyghe, што месціцца ў прадмесці бельгійскага горада Гент, гатуюць сапраўдную "белую гарачку" – піва "Delirium". У нашага чалавека "белачка" звычайна прыходзіць з чорцікамі на дне бутэлькі ды белымі канямі. А заходняму бульдосу мрояцца ружовыя сланікі. Таму ў 1992 мясцовая алкашня заснавала "Брацтва ружовага слана" (гал. - Confrerie van de Roze Olifant), якое ставіць сваёй мэтай прапаганду піва "Delirium".

Піва разліваецца ў непразрыстыя бутэлькі, якія выглядаюць як керамічныя. Для браджэння выкарыстоўваюць тры розныя віды дражджэй – для кожнага гатунка свой. "Delirium Tremens" (Strong Pale Ale) – моцнасць 8,5%. "Delirium Nocturnum" (Strong Dark Ale) – каб лепш спалося, таксама 8,5%. Ну і святочнае навагодняе "Delirium Noël" (Strong Dark Ale). І моцнасць адпаведная – 10%.

Гісторыя старажытнага п’янства і разгільдзяйства

[мінуўшчына]

# ПІВАВАРЫ XX ст.

## Дзве сусветныя вайны, будаўніцтва камунізму ды вынаходніцтва ядзернай бомбы – усё гэта аказалася бяссільным перад прагай чалавецтва да якаснага піва!

*– Жан, ты не ведаеш, хто мачыўся ў ліфце?!*
*– Відаць, зноў гэтыя рускія белаэмігранты не дайшлі да сарціру на першым узроўні!*



**Густаў Эйфель ведаў, чым заманіць парыжан на самую верхатуру сваёй вежы: ён пабудаваў там піўнуху. Пагадзіцеся, дзеля гэтага можна прымусіць сябе падняцца на 300 м над зямной паверхняй: піва акрыляе!**

**Канец XIX – пачатак XX стагоддзяў - вялізны навукова-прагрэсіўны крок усяго чалавецтва. Радыё і тэлефон, электрыфікацыя і сінематограф, аўтамобіле і ераплан, – за некалькі дзесяткаў гадоў было запатэнтавана больш адкрыццяў, чым за ўсю папярэднюю гісторыю. Якія прыгоды і цяжкасці чакалі піва ў неспакойным XX стагоддзі, якія шчэ “сюрпрызы” ды ўдары ў спіну прыдумалі ягоныя праціўнікі, як яно змагло вытрываць, не апусціць пену, утрымацца на вышыні – аб гэтым чарговая частка нашага гістарычнага нарыса…**

**Пачатак правядзення сусветных выстаў у другой палове XIX стагоддзя, якія з’яўляліся сімвалам індустрыялізацыі і адкрытай пляцоўкай для дэманстрацыі тэхнічных і тэхналагічных дасягненняў, даў шырокі шлях да развіцця масавага піваварэння ў надыходзячым стагоддзі не толькі ў Еўропе, але й на астатніх кантынентах. Лондан, Парыж, Філадэльфія, Вена, Мельбурн, Барселона, Чыкага, Брусэль, – геаграфія мерапрыемстваў апляла ўсю планету. Асабліва прэстыжныя тусоўкі збіраліся ў французскай сталіцы. У 1889 годзе, у стогадовы юбілей Французскай рэвалюцыі, гарадская адміністрацыя заказала ў інжынера Густава Эйфеля праект уваходных варот акурат да адной з такіх выставаў. Вядомы аматар піва выканаў заказ у выглядзе металічнай вежы, а на вышыні размясціў кабачок, дзе можна было паснедаць ды падзівіцца на горад праз залацісты колер піва. Цяпер гэта ўсім вядомая Эйфелева вежа, сімвал Парыжа. Там і зараз можна пацягнуць літр-другі на вышыні з цудоўнымі краявідамі.**

Яшчэ адным важкім крокам было вынаходніцтва кронэн-корка (стары-добры ўсім вядомы корак на бутэльках). Хаця піва ў шкляной тары было вельмі папулярна ў апошняй чвэрці XIX стагоддзя, але існавала адна вялізная запарка: коркі, якія прымяняліся ў той час, былі ненадзейнымі. Яны не каркавалі бутэльку дастаткова шчыльна і вуглякіслы газ прасочваўся вонкі. Чалавека, якому абрыдла сёрбаць вытхлае піва, звалі Ўільям Пэйнтэр. Вось ён і прыдумаў просты ў вырабленні, надзейны і абсалютна герметычны кронэн-корак у 1891 годзе.

Са з’яўленнем большай канкурэнцыі, пачынаецца барацьба за спажыўцоў ды заўсёднікаў. Менавіта тады нараджаецца першая рэклама, даволі сціплая, але ж трэба было з нечага пачынаць. Таксама пачынаюцца першыя спробы буйных піавараў прыціснуць ці падначаліць дробных – цывілізацыя ўваходзіла на парог эры глабалізацыі… Здаецца, перад півам адчыніліся ўсе гарызонты, светлая будучыня маячыла і перад светлым, і перад цёмным. Піва лілося стрымнай ракой у акіян п’янства. Мабыць, у нашых нядаўніх продкаў было зусім блага з тармазамі, гэты факт неспадзявана прывёў да радыкальных мераў, прынятых некаторымі ўрадамі – гэтак званых “сухіх законаў”. У Расійскай імперыі алкагольныя напоі забаранілі вяленнем самога самадзержца Мікалая II ў 1914 годзе, акурат напярэдадні першынца маладой глабалізацыі – Сусветнай Вайны. Гісторыя ў выглядзе расійскага народа не даравала такой памылкі: хоць і атрымалася на нейкі час стрымаць беспрабуднае п’янства, уласцівае шырокай рускай душы, але ваяваць на цвярозую галаву ніхто не жадаў. Масавае дэзерцірства абумовіла беспаспяховыя ваенныя дзеянні супраць кайзераўскай Германіі і Аўстра-Венгрыі. А ў 1917 годзе адбыўся вядомы Кастрычніцкі пераварот



**Часы “сухога закона” у ЗША. Гэтыя варвары абстыненцыі ня ведалі, што рабілі. Але нашчадкі ім гэтага не даруюць!**

1



2



3



**1. Кронэн-корак**

4



5



**2-5. Папярэднія варыяцыі каркавання піва, большасць з якіх не вытрымала канкурэнцыі з нумарам 1**

пад кіраўніцтвам завербаванага нямецкімі піварамі шпіёна Валодзі Ульянава і Партыі бальшавікоў (адрозніваліся ад меншавікоў тым, што патрабавалі даліву піва пасля адстою пены). У 1923 годзе вытворчасць піва ў Савецкай Расіі ўзнавілася. У Фінляндыі, якая атрымала ў той час незалежнасць, забарона пратрымалася з 1919 да 1931 года. Скончылася яна ўсенародным рэферэндумам, які паказаў адзінадушнасць нацыі ў гэтым пытанні. Тут народнае волевыяўленне ў адзіным парыве змяло існуючыя забароны, за скасаванне закона выказалася больш за 70% фінаў. Нарвежцы сядзелі ў завязцы з 1916 па 1927 год. Але ўсіх пераплюнулі заканадаўцы невялікай астраўной краіны Ісландыі: у гэта цяжка паверыць, але на тэрыторыі вострава гейзераў і вулканаў піва знаходзілася па-за законам з 1915 па… 1989 (!!!).

Падчас вайсковых дзеянняў Першай Сусветнай нямецкія і французскія ваякі з піварамі, нажаль, не цырымоніліся – мноства дробных нямецкіх, бельгійскіх ды французскіх бровараў назаўсёды зачынілі свае дзверы з-за пашыранай практыкі канфіскацыі медзі для далейшай яе пераплаўкі на кулі. А з гэтага высакароднага металу ў той час была зроблена большая частка абсталявання півавранняў. Якраз тады і нарадзілася вядомая пацыфісцкая французская прымаўка "Non à la guerre, oui à la bière!" (Не – вайне, піву – так!). На шчасце, у 1918 годзе нікому не патрэбная вайна скончылася, а разам з ёй і варварскія адносіны да півавытворцаў.

Аднак гэта былі не ўсе бядоты, якія зваліліся на галаву героя нашага расповеду. У гісторыю тыя падзеі 1923 года ўвайшлі пад назвай "Піўны путч" і сталі стартавай пляцоўкай для ўзлёту найбуйнейшай гніды XX стагоддзя Адольфа Гітлера і яго нацыянал-сацыялістычнай партыі. У мюнхенскай піўнусе "Бюргербройкелер" сабраліся кіраўнікі Баварыі, каб у спакойнай атмасферы пад куфаль піва ды сасіскі абмеркаваць цяжкія эканамічныя абставіны, у якіх апынулася Германія. Гітлер скарыстаўся гэтай сітуацыяй, каб пад дуламі кулямётаў прымусіць схіліцца іх на свой бок і абвесціць новую "рэвалюцыю". На шчасце мюнхенцы не паддаліся на правакацыю, і путч быў падаўлены, а Гітлер і большасць яго прыспешнікаў трапілі за краты. (Варта сказаць, што да канца сваіх дзён Адзік не ўцяміў, што яму тады гэтак торкнула: «Лёвэнброй» цёмны ці баварскія каўбаскі. Таму ён на ўсялякі выпадак завязаў і з тым і з другім. І да чаго гэта прывяло?..)

Новы Свет стараўся не адставаць ад бабулі-Еўропы. У Канадзе "сухія законы" дзейнічалі з 1901 аж да 1948, але толькі ў асобных рэгіёнах, таму канадцы надта не замарочваліся, а проста перабазіраваліся ў больш ліберальныя правінцыі. У суседніх ЗША з самага пачатку стагоддзя забарона на вытворчасць алкагольных напояў дзейнічала ў некаторых штатах. Асабліва ўз'еліся яны менавіта на піва: маўляў, піва – напой кайзераўскага ворага, таму няма чаго прывучаць да яго грамадзян вольнай краіны. А заадно матывавалі гэтыя меры эканоміяй ячменю ды збожжа для арміі. Хоць вайна і скончылася ў 1918 годзе, 16 студзеня наступнага года быў прыняты ўсеагульны "сухі закон". Але і там мясцовыя заканадаўцы моцна памыліліся. Маючы на мэце толькі добрыя намеры па прасоўванні ў масы "карысных" безалкагольных кока-кол ды іншых газіраваных фарбаваных хімічных вадкасцяў, яны ўвагналі краіну ў эпоху мафіёзных разборак, ценявой эканомікі ды масавай кантрабанды. Ясны пень, што дабром такое становішча ў краіне скончыцца не магло. У рэшце рэшт гэта і прывяло да Вялікай Дэпрэсіі – буйнейшага эканамічнага крызісу, які ЗША змаглі пераадолець толькі скасаваўшы драконаўскі закон у 1933 годзе. Дэпрэсію як рукой зняло! Яскравым доказам прабуджэння прадпрымальнай штатаўскай жылкі служыць ідэя кампаніі "Кругер" разліваць піва ў бляшанкі ў 1935 годзе. Праўда, яна яшчэ не адчынялася так лёгка, як сёння – прыклёпваць адкрывальны ключ прапанаваў спякотным ранкам 1959 года бяззубы механік з Агаё Эрмал Клеон Фрэйз. А ў 1962 бляшанкі пачалі рабіць з алюмінію. У 60-х зноў жа галоўныя глабалізатары з-за акіяну пачалі разліваць піва ў ПЭТы (не ламай галавы, паважаны чытач, гаворка ідзе пра звычайную пластыкавую бутэльку).

Канкурэнцыя ў гэтую эпоху ўваходзіць у фазу нячэснай барацьбы паміж вытворцамі. У 80-х хадзіла чутка, што мексіканскія рабочыя мочацца ў цыстэрны з півам "Corona", якія прызначаліся для паставак у ЗША. Як аказалася, гэта "навіна" была выклікана павышанай папулярнасцю мексіканскага піва ў Штатах. Вядома ж, сярод канкурэнтаў з'явіліся зайздроснікі, адным з якіх была накіраваная на амерыканскі рынак фірма Heineken. Вось адзін аптовы распаўсюднік піва гэтай кампаніі і пусціў такую брудную "вутку". Пазней прадстаўнікі Heineken прызналі, што іхні аптавік "памыліўся", але ж плёткі ой якія жывучыя…

Другая палова XX стагоддзя характарызуецца паглыбленнем глабалістычных тэндэнцый. Паглынанне дробных бровараў транснацыянальнымі карпарацыямі, зліццё некалькіх вытворцаў у адзін буйны кансорцыум і іншыя падобныя працэсы прывялі на пачатку новага тысячагоддзя да таго, што пры найшырэйшым выбары тысяч гатункаў піва, ільвіную долю рынка займаюць усяго 5 буйных кампаній. Але на шчасце ўсіх антыімперыялістаў ды антыглабалістаў у канцы XX і ў пачатку нашага стагоддзя назіраецца тэндэнцыя ўзнікнення мясцовых невялікіх бровараў, якія не гоняцца за колькасцю дэкалітраў ды завоблачнымі прыбыткамі, а працуюць на якасць і радасць шэраговых аматараў вечнапеннага напою.



**Бальшавікі на чале з Леніным чакаюць адстою пены ў жэнеўскай піўнусе Lion d'Or (Швейцарыя): "Долго. Чертовски долго!"**






**Гітлер – Герынгу: "Ведаеш, геносэ, пасля Піўнога путчу я завязаў з алкаголем, сасіскамі і кабетамі..." Да чаго прывяла такая жыццёвая пазіцыя, мы ўсе добра ведаем.**




**Першая рэклама піва будавалася на банальным прынцыпе: "Заліўся і забыўся"**



**Мэрылін Манро: "Пасля пары куфляў "Будвайзера" прэзідэнт Кенэдзі ну такі мілашка!.."**

## ПІЎНАЯ КУЛІНАРЫЯ

# Бліны на піве "Трафейныя"



**Найсмачнейшы і найпрацейшы рэцэпт бліноў на піве, які са смакам заменіць вам класічны варыянт, калі вы маеце бутэлечку піва ў лядоўні.**

Інгрэдыенты на тузін сярэдніх бліноў:

*2 яйкі*
*250 грам мукі*
*1/4 літра малака*
*1/4 літра светлага піва*
*100 грам масла*
*дробка солі*

У міску насыпаем муку і робім адтуліну ў цэнтры. Памешваючы, пакрыху дабаўляем туды малако. Мяшаем да атрымання аднароднага цеста без камячыкаў. За гэтым дадаем яйкі, добра ўзбіваем. Потым прыходзіць чарга растопленага масла і солі. І, нарэшце, іскрынка рэцэпту, дамешваем у наша цеста прызапашаны лагер. Рэшту піва наліваем сабе ў куфаль, а цеста ставім у лядоўню. Праз гадзіну даставайце патэльню і радуйце сваіх сяброў і блізкіх апетытнымі блінамі. А калі вы жадаеце праславіцца як сапраўдны боскі кулінар, то проста нафаршыруйце вашыя бліны пячоначным паштэтам або цёртым сырам з часныком і тварагом.

[спорт]

## IX НОРАВЫ




Ах ты гадскі папа, сваіх мочыш, да?!

# ПІЎНЫ ДУШ па-баварску

Заўтра на трэніроўцы я вам пакажу, як "Паўлянэр" пераводзіць!..



**Вельмі ўдалым выдаўся мінулы сезон для мюнхенскай "Баварыі": кубак, чэмпіянат і фінал Лігі чэмпіёнаў. Галандскі настаўнік Луі ван Гал здолеў усяго за паўгады наладзіць дзеяздольны калектыў ды прывіць ім галандскае бачанне футбола.**

А вось адзначаць перамогі мюнхенцаў – трымальнікаў старых піўных традыцый – вучыць не трэба. Піва літаральна лілося ракой – сапраўдны піўны душ прынялі гульцы, дасталося і трэнеру – прамок да ніткі. Аблівалі, варта сказаць, не абы чым, а свежазвараным Paulaner'ам, які ў мінскіх кабаках каштуе 10-12 тысяч за куфаль.

Як паведамляе нямецкі таблоід "Sportsbild" падчас піўной вакханаліі на газон "Альянц-Арэны" быў выліты гадавы заробак Глыбоцкага "Малочніка". Застаецца спадзявацца, што калі-небудзь настануць тыя часы, калі глыбоцкія кудзеснікі мяча, абліваючыся спонсарскім малаком пасля перамогі ў Кубку Віцебскай вобласці, выльюць на поле хаця б дзённы заробак ключавога паўабаронцы Баварыі Франка Рыберы.

# Алімпузікі

Вось такіх уродцаў мы рызыкуем атрымаць у якасці талісманаў Алімпійскіх гульняў-2012

**Арганізатары Лонданскай алімпіяды 2012 прадставілі на суд грамадскасці талісманы гульняў – "касмічных" персанажаў, якіх завуць Уэнлак і Мандэвіль.**

Гэта ўжо другая спроба крэатыўшчыкаў стварыць сабе куміра. Першая скончылася поўным фіяска, бо выклікала рэзкія пратэсты ў жыхароў, хаця на стварэнне лагатыпаў было затрачана 400 тысяч фунтаў. На гэтых двух лупатых пачвар затрацілі прыкладна столькі ж, але вынік усё адно не радуе вока.

Як бясплатны бонус дадаецца гісторыя нараджэння. Маўляў, на сталеліцейным заводзе пад Манчэстэрам жылі-былі дзве кропелькі расплаўленай сталі. А адзін працоўны, сыходзячы на пенсію, прыхапіў іх з сабой, каб зрабіць дзецям цацкі. Вось такая казка для лахоў на 400 штук фунтаў. Што ні кажы, умела сродкі асвоілі. І толькі самы ўважлівы глядач заўважыць, што гэтыя "кропелькі" як дзве кроплі падобныя да аднавокіх прышэльцаў з серыялу "Сімпсаны".

А што тычыцца Уэнлака і Мандэвіля, то яны рызыкуюць папоўніць шэраг самых недарэчных алімпійскіх талісманаў, якіх з часу з'яўлення самой ідэі ў 1972 годзе набралася цэлая хеўра.



Зыр, Вэйдэр, які жахлівы плагіят!




# "ПЦІЧКУ ЖАЛКА!.."




Шаман племені зулусаў, пакурыўшы сушаны мазжачок грыфа, ужо ў курсе, хто будзе наступным чэмпіёнам Свету

**Вялікі футбольны фэст чатырохгоддзя, які толькі набірае абароты, рызыкуе стаць арніталагічным бедствам для Паўднёвай Афрыкі.**

У той час як Нэльсан Мандэла бласлаўляе гульцоў з розных краін свету, эколагі б'юць у там-тамы трывогу. Пад пагрозай поўнага знішчэння знаходзіцца адзін з сімвалаў Чорнага кантыненту – афрыканскі грыф. Бяда падкралася, адкуль не чакалі. Мясцовыя зулускія шаманы ставяць сілкі, каб заарканіць птушак, зрабіць ім трэпанацыю, высушыць мозг, закалаціць яго ў люльку ды выкурыць. Справа ў тым, што па тутэйшых павер'ях грыф валодае дарам яснабачання, а той, хто пыхне крапаль-другі яго шэрага рэчыва, таксама зможа прадказваць будучыню.

Кемлівыя прайдзісветы адразу дапетрылі, як закасіць на гэтым бабла – вядома ж на таталізатары. І вось смаляць яны гэтыя мазгі, аж дым з вушэй ідзе. І мроіцца ім не толькі лік будучага паядынку, але і ўвесь матч як па телевізары – з паўторамі і дадатковым часам. Пасля чаго бягуць да букмекераў, каб паставіць усе грошы племені на Гандурас ці якую Паўночную Карэю. Эксперты лічаць, што такімі тэмпамі праз пару гадоў грыфаў не застанецца, і курцам-"прадказальнікам" трэба будзе пераходзіць на іншую жываціну. Нагадаем, што наступны чэмпіянат пройдзе ў 2014 годзе ў Бразіліі, дзе таксама распаўсюджаны культ вуду. А яшчэ там "многа-многа дзікіх абяз'ян".

**Кастусь КАСТАНЭДА**

ГЭТА НЕ БРУДНЫЯ КАРЦІНКІ, ГЭТА НА КАРЦІНКАХ БРУД!

# Нічога, у мамы ёсць Persil...

Месца пад куфаль піва

На здымку: адкрыццё Алімпіяды

Плаванне

**У Германіі на беразе Эльбы каля горада Брунсбютэля прайшла штогадовая "Брудная алімпіяда" – міжнародныя спартыўныя спаборніцтвы па калена ў дрыгве. Без піва тут не абыйшлося...**

На гульнях былі прадстаўленыя бадай усе алімпійскія віды спорту, у якіх бралі ўдзел прадстаўнікі амаль усіх краін Еўропы. На вялікі жаль, наша дэлегацыя не змагла паўдзельнічаць у спаборніцтвах, бо па дарозе загразла ва ўласных палескіх балотах. Інакш нас бы дакладна чакала першае месца ў агульнакамандным заліку.

Эстафета

Валейбол

Велакрос

Вольная барацьба



Футбол

## МотаВела па-швейцарску



**Самым "нячэсным" відам спорту па праву можна назваць велагонкі. Што ні год, то якога-небудзь яздуна ловяць са шпрыцам у руцэ. І допінг па венах сабе колюць, і калёсы глытаюць, і свежую кроў пераліваюць. І вось цяпер чарговыя выкрутасы – у ход пайшлі новыя тэхналогіі. Самым хітрым аказаўся швейцарскі веласпрынтэр Фабіян Канчалара.**

Датошныя італьянскія журналюгі на чале з былым калегам швейцарца Давідам Касані прэзентавалі відэанарэзку, у якой сцвярджаецца, што Канчалара прымайстраваў да свайго жалезнага каня рухавічок. Аўтары паказваюць, што пад сядлом схаваная прылада, якая дапамагае круціць педалі, а кіраваць ёй можна з дапамогай спецыяльнага тумблера на рулі. Сяміхвілінны ролік насычаны элементамі відэаграфікі і добра падабранымі фрагментамі з двух апошніх выйграных гонак "Парыж-Рубэ" і "Тур Фландрыі", дзе яскрава бачна, як алімпійскі чэмпіён ва ўсю цісне нейкую пімпачку на сваім ровары.

Сам жа "вынаходнік" не прызнаецца і называе гэтыя домыслы фальшыўкай ды інтрыгамі канкурэнтаў. Але ж, не гледзячы на ўсю спрэчнасць, відэа ўжо выклікала грандыёзны скандал, бо, як кажа ранейшы дэвіз "Тур дэ Франс" – не бывае дыму без агню.

Лэнс АРМСТРАНГ

# МЕТАМАРФОЗЫ БЕЛАРУСКАГА ФУТБОЛА

Контакты | Карта сайта | English

Асацыяцыя Беларуская федэрацыя футбола

АБФФ Сборные Соревнования Лицензирование Пресс-служба

**У сталічным Доме футбола прайшла жараб'ёўка 1/32 фінала розыгрышу Кубка Беларусі сезона 2010/11. Сляпы лёс вызначыў наступныя пары супернікаў (гл. малюнак)**



Результаты жеребьевки 1/32 финала розыгрыша Кубка Беларуси

Пятница, 04 Июня 2010

Результаты жеребьевки 1/32 финала розыгрыша Кубка Беларуси

В Доме футбола прошла жеребьевка 1/32 розыгрыша Кубка Республики Беларусь по футболу сезона 2010/11.

1. Гомельжелдортранс (Гомель) – Клеческ (Клецк)
2. ФК «Жлобин» - Ведрич-97 (Речица)
3. ФК «Осиповичи» - Белкард (Гродно)
4. Ливадия (Дзержинск) – ФК «Барановичи»
5. Вертикаль (Калинковичи) – ФК «Руденск»
6. Звезда – БГУ (Минск) – ФК «Городея»
7. Газовик («Витебск») – Коммунальник (Слоним)
8. Торпедо-МАЗ (Минск) – Верас (Несвиж)
9. Ислочь (Минский р-н) – Химик (Светлогорск)
10. Белтрансгаз (Слоним) – ФК «Лида»
11. Вигвам (Смолевичи) – ФК «Полоцк»
12. МОФК (Орша) – Слуцксахар (Слуцк)
13. Неман (Мосты) – ФК «Сморгонь»
14. Технолог (Могилев) – ФК «Молодечно»
15. Береза-2010 (Береза) – СКВИЧ (Минск)
16. Спартак (Шклов) – Славия (Мозырь)

Матчи пройдут на полях соперников, указанных первыми.

все новости

Так і бачацца красамоўныя загалоўкі ў беларускай спартыўнай прэсе: "Клеческ пустил под откос "Гомельжелдортранс", "Газовик дал газу – Коммунальник дал течь", "Вигвам снял скальп с Полоцка", "Слуцксахару пришлось не сладко", "Сморгонь сжигает Мосты", "Сквич срубил Берёзу под корень"...

Але найбольшую інтрыгу стварае склад калінкавіцкай "Вертыкалі". Ходзяць чуткі, што ў камандзе гуляюць прадстаўнікі Райвыканкаму, Райсавета, Райсабеса і РайАНА. За вароты можна не хвалявацца, калі іх будзе надзейна ахоўваць начальнік РАУС.

Ну а трэніраваць усю гэтую футбольную "эліту" раёна павінен галоўны ідэолаг. Калі так, то пажадаем жа калінкавіцкаму клубу вертыкальнага ўзлёту аж да еўракубкаў.

Васіль КАЧКІН

# АГРАСПРЫНТ

**Пакуль на Захадзе людзі коўзаюцца ў брудзе нібы свінні, нашыя свінні нібы людзі ўдзельнічаюць у спаборніцтвах.**

На выставе "Белагра-2010", якая прайшла днямі на базе ААТ "Гастэлаўскае" Мінскага раёна, былі арганізаваныя парасячыя бягі. У забегах прымалі ўдзел спрынтэры з вядучых свінагадоўчых комплексаў краіны. Перамог ганарысты парсюк, якому гледачы ўжо паспелі даць мянушку Усэйн Болт (на фота злева).



[на пасашок]

# "ПІЎНАЯ ЭСТАФЕТА"

ГУЛЬНЯ!



**Калі вам надакучыла проста піць піва і хочацца азарту, драйву ды фантана эмоцый, прапануем далучыцца да нашай новай рубрыкі "Піўныя спаборніцтвы". Пачнем з камандных гульняў...**

**Валяцца без прытомнасці пад стойкай бара – занятак не з займальных, можна прапусціць шмат цікавых рэчаў, якія адбываюцца вакол, напрыклад, піўныя гульні.**

Газета "Піўная" прапануе прыемна правесці час з сябрамі за гульнёй "Піўная эстафета". Далучайся!

**Што трэба**: 10 чалавек (па пяць ад кожнай каманды), піва, добры настрой і самая ўмяшчальная пасудзіна ў бары.

**Што рабіць**: Выстройваемся ў калону па адным. Першая каманда – з аднаго боку стала, другая – насупраць. Па камандзе першы чалавек пачынае спусташаць свой куфаль, і як толькі ён завяршае, пачынае другі, потым трэці і гэтай далей.

**У чым сутнасць**: Выйграе тая каманда, якая выпіла піва першай і чыё адзенне засталося сухім.

**Савет майстроў**: Калі загадзя не патрэніравацца, давёўшы майстэрства да дасканаласці, на салідную суму не спрачайся

**Хітрасці**: Якія ж тут хітрасці! Каардынацыя рухаў ды "лейка" паболей.



## ГОН НАЎЗДАГОН

### Хітры фрыц



Быў час, мой сябар працаваў на піўным складзе, а справа была ў часы, калі Горбі рабіў перабудову. Бернхард – нямчуга, які завітаў на аганёк, піў нашу лімонную-сталічную і штораз казаў ёй: "Ich liebe dich", настойліва ігнаруючы бляшанкі з нямецкім півам. Калі я апусціў на падлогу чарговую пустую бляшанку, то адразу адчуў жаданне паглядзець, а як яны там стаяць... 3 тых часоў піва ў бляшанках не паважаю.

### Ідылія



Адзін хлопчык віртуозна адкаркоўваў бутэльку вокам, а дзяўчынка не менш натхнёна зрывала корак зубамі. Гэтак яны й ажаніліся...

Вядучы рубрыкі **Ярыла ПШАНІЧНЫ**
Малюнкі **Анатоль ТАДОРСКІ**

# Дзе знайсці газету "Піўная" і прыемна напіць піва

**Паб-клуб "Graffiti",** зав. Калініна, 16, 11:00 - 23:00, пт-сб 11:00 - 02:00)
**Кафэ-бар "Бастыён",** вул. Валгаградская, 35, 12:00 - 23:00
**Піўны рэстаран "7 тонн",** вул. Я.Коласа, 42, 11:30 - 24:00
**Клуб "Алекс'с",** вул. Чарнышэўскага, 10а, 11:00 – 04:00
**Більярдная "Пирамида",** вул. Чарнышэўскага, 10а, 10:00 - 08:00, бар 10:00-06:00
**Кафэ "Габрово",** пр-т Незалежнасці, 81, пн-пт - 10:00 - 24:00, сб-нд 1:00 - 24:00
**Клуб "R-Club",** вул. Сурганава, 26, 11:00 - 05:00
**Піўны рэстаран "Inter Pub",** вул. Сурганва, 50, 09:00 - 02:00
**Кафэ-піцэрыя "Колесо",** вул. Куйбышава, 40, 10:00 - 01:00
**Паб "Пинта XXL",** вул. Кульман, 11
**Рэстаран "Шынок у Лявона",** вул. В.Харужай, 17, 11:00 - 23:00
**Клуб "Реактор",** вул. В.Харужай, 29, 22:00 - 06:00
**Кафэ "Сытый папа",** вул. В.Харужай, 8, 08:00 - 05:00
**Кафэ "Pub Club Mixx",** вул. Чырвоная, 12, 12:00 - 03:00
**Рэстраран "Троицкий",** вул. Старавіленская, 4, 11:00 - 24:00
**Кафэ "Банана Кафе",** вул. Старажоўская, 7, 10:00 - 05:00
**Кафэ "Стары горад",** вул. Багдановіча, 19, 12:00 - 00:00
**Кафэ "Сказочный замок",** пр-т Незалежнасці, 83, 12:00 - 23:30
**Кафэ-бар "Альцэста",** вул. Багдановіча, 78, 11:00 - 24:00
**Кафэ "Beatles",** вул. Ціміразева, 65, 10:00 - 01:00
**Рэстаран "Пивная История",** 1-ы Загарадны завулак, 20, пн-чц 9:00 - 00:00; пт 9:00 - 6:00; сб 12:00 - 6:00; нд 12:00 - 00:00
**Рэстаран "Ямайка",** вул. Альшэўскага, 10, пн-чц 14:00 - 03:00, пт 14:00 - 05:00, сб- нд 12:00 - 05:00
**Рэстаран "Пицца-Фут",** вул. Прытыцкага, 19а, 11:00 - 24:00
**Кафэ "Зелёная поляна",** вул. Кальварыйская, 17, кругласутачна
**Рэстаран "Чумацький шлях",** вул. Мяснікова, 34, 10:00 - 23:00
**Сушы-паб "Пинта VIP",** вул. Берсана, 16, 12:00 - 02:00
**Амерыканскі бар "DOODAH KING",** вул. Берсана, 14, 11:00-05:00
**Ірландскі паб "Дрожжи United",** вул. Свярдлова, 2, 09:00 - 02:00
**Кафэ "Upteka",** вул. Інтэрнацыянальная, 9, 9:00 - 23:00
**Кафэ-бар "Провинция",** вул. Рэвалюцыйная, 2, штодня
**Кафэ "Театро",** вул. Багдановіча, 6, 10:00 - 23:00
**Кафэ "Спиналь",** вул. Куйбышава, 48, 11:00 - 23:00
**Кафэ-бар "KABAB.JI",** пр-т Незалежнасці, 71, 11:00 - 23:00
**Кавярня "Чебуречная",** вул. Валадарскага, 9, штодня
**Кавярня "У Янкі",** вул. К.Маркса, 11:00 – 23:00
**Страўня "Камяніца",** вул. Першамайская, 18, 12:00 - 23:00
**Кафэ "Добрыя мыслі",** вул. Магілёўская, 12, 10:00 - 23:00
**Клуб "Verona Pub",** вул.Гікала, 5, 12.00 - 06.00
**Рэстаран "Квартал CITY",** вул. Маскоўская, 9, 07:00 - 05:00
**Кафэ-бар "Пивной прибой",** вул. Маскоўская, 20, 11:30 - 23:00
**Кафэ "Госці",** пр-т Незалежнасці, 25, 11:00 - 01:00
**Кафэ-бар "Радзівіл",** вул. Я.Купалы, 23, 11:00 - 23:00
**Рэстаран "Ракаўскі бровар",** вул. Віцебская, 10, 12:00 - 24:00
**Рэстаран "Піпл'с",** вул. Кальварыйская, 1, 12:00 - 01:00
**Піўны бар "Старая мельница",** пр-т Незалежнасці, 78, 11:00 - 23:00
**Кафэ "Саквояжъ",** вул. Раманаўская Слабада, 26, 11:00 - 23:00
**Кафэ "Валерия",** вул. Валадарскага, 7, 10:00 - 23:00
**Кафэ "Морячок",** вул. Талбухіна, 14, пн-чц 11:00 - 24:00, пт-нд 11:00 - 02:00
**Кафэ "Pizza Peperoni",** вул. Талбухіна, 18, 11:00 - 23:00
**Бар "Японский Бог",** вул. Талбухіна, 4, штодня 14:00 - 01:00
**Кафэ-бар "Plahoff",** вул. Прытыцкага, 2а, штодня, 11:00 - 24:00

**Пытайцеся газету, не адыходзячы ад бара!**





**"Піўная. Газета пра піва і пад піва"**
Газета зарэгістраваная Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 24.06.2009 г. за №531
**Галоўны рэдактар:**
**Паўлюк Канавальчык**
(ён жа Павел Генадзьевіч, ён жа дырэктар)
Заснавальнік і выдавец: Установа Інфармацыйна-выдавецкае агенцтва "ПостМедыя"

Юрыдычны адрас:
220005 г.Мінск, пр.Незалежнасці, 58-417
Тэл./факс: +375 17 292 88 77
Адрас для карэспандэнцыі:
220034 г. Мінск, п/с 1
Электронны адрас:
gazeta@piunaya.by
Дадатковую інфармацыю можна знайсці на афіцыйным сайце газеты:
**piunaya.by**

Адказнасць за змест рэкламы нясе рэкламадаўца.

Матэрыялы, што публікуюцца ў рубрыках "Цікава пакаштаваць", "Аматарам піва", "Дэгустуем разам" друкуюцца на правах рэкламы.

Пры перадруку матэрыялаў спасылка на газету абавязковая.

Газета надрукаваная ў РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку", Ліцэнзія №02330/0494179 ад 3.04.2009
220013 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79
**Тыраж 3200 экз.**
Нумар падпісаны да друку: 14.06.2010 г. а 21:09:17
Заказ № 2900

Кошт свабодны